

# Беларус

«Дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь зьяўляецца беларуская мова».
— *Канстытуцыя РБ, Артыкул 17.*

№ 425 Чэрвень-Ліпень 1995
Год выд. 44

BIELARUS / Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. Price $3.00

## БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫ ШТАНДАР, СЫМБАЛЬ НАЦЫІ, ДЗЯРЖАВЫ, ДЭМАНСТРАТЫЎНА ПАРВАНЫ Ў МЕНСКУ

У аналы беларускага нацыянальнага руху, нацыянальнае гісторыі дзень 16-га траўня 1995 году ўвойдзе як дзень ганьбы, дзень зьневажаньня беларускае нацыі. Менш як праз 48 гадзінаў ад часу калі былі зачыненыя выбарчыя-рэфэрэндавыя урны, яшчэ ня былі цалкам падлічаныя вынікі рэфэрэндуму, зусім ня быў пачаты парлямэнтарны працэс, які-б мог бы абгрунтаваць і рэфэрэндум і выбары, кіраўнік адміністрацыі прэзыдэнта А. Лукашэнкі ІванЦіцянкоў дэманстратыўна разарваў на кавалкі бел-чырвона-белы, афіцыйны дзяржаўны сьцяг Рэспублікі Беларусь раздаючы іх прысутным са сваім подпісам.

Інакш як барбарскім законапарушэньнем гэты ўчынак назваць нельга. Сапраўды антыдзяржаўны, антызаконны, зьняважальны акт. Беларусь гэткага яшчэ не зазнавала. Наўрад ці паддаецца лягічнаму грамадзянскаму аналізу гэткае дзеяньне. Хутчэй за ўсё на гэты ўчынак у прававаай дзяржаве павінна была-б рэагаваць міліцыя, ды разглядацца юрыдычнымі інстанцыямі. Ня выключана, што ў прававаай дзяржаве гэты выпадак праэкзамінавалі-б і паталягі. Што-ж жадалі прадэманстраваць гэтым актам? Рвучы нацыянальны беларускі дзяржаўны сьцяг Ціцянкоў вобразна зьнішчаў, «распраўляўся» з нацыянальнай Беларусьсю. Сьцяг увасабленьне беларускага народу, беларускае дзяржавы, быў ненавісны розным ціцянковым і яны са сьцягам «зводзілі парахункі». Відавочна, што гэтта уздымаліся рукі на Беларусь.

Няма сумлеву, што су-судзельнікам у гэтым антыдзяржаўным акце ёсьць і прэзыдэнт А. Лукашэнка. Якраз ён, прэзыдэнт, паклаў пачатак ламаньню канстытуцыйных парадкаў у Рэспублікі Беларусь. З ягонай згодай адбылося пабоішча дэпутатаў-апазыцыянэраў у Вярхоўным Савеце. Гэта якраз прэзыдэнт санкцыянаваў ды ініцыяваў незаконную працэдуру правядзеньня рэфэрэндуму, адсунуўшы на другі плян важнейшыя ў гісторыі нацыі выбары, у выніку чаго ў рэспубліцы наступіў канстытуцыйны крызіс. Абраны летась народам, прэзыдэнт А. Лукашэнка, як «спэцыяліст» наладжаньня эканамічнага жыцьця рэспублікі, на працягу году ня толькі не палепшыў эканоміку краіны, але уводзіць яе ў крызіс шпарчэйшым тэмпам, як гэта рабіў В. Кебіч. У дабавак давёў ён краіну да парлямэнтарна-канстуцыйнага хаосу ды пасьмешышча на міжнародным узроўні. З гэтага цяжкога палітычна-эканамічнага стану Беларусі прыйдзецца выходзіць даўжэйшы час, але з пэўнасьцю можна сказаць, што на захадзе і надалей беларуская праца будзе весьціся і пад знакам Пагоні і пад бел-чырвона-белым сьцягам.

## НЕПРАКАНАЎЧЫЯ ВЫБАРЫ Й РАЗЫГРАНЫ «РЭФЭРЭНДУМ» У БЕЛАРУСІ ЯШЧЭ НЕ ЗАКОНЧАНЫЯ

Першы тур выбараў у Вярхоўны Савет Беларусі, як ведама, адбыўся 14-га травеня сёлета. У сьпісы выбаршчыкаў былі улучаныя 7 445 820 грамадзянаў. У галасаваньні прынялі ўдзел 4 821 199 выбаршчыкаў, або 64,7%.

У часе першага туру выбараў адбываўся таксама і г.зв. рэфэрэндум, у блянках якога стаялі гэткія пытаньні: «Ці згодны Вы з наданнем рускай мове роўнага статусу з беларускай?»; «Ці падтрымліваеце Вы прапанову аб устанаўленні новых Дзяржаўнага сцяга і Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь?»; «Ці падтрымліваеце Вы дзеянні Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, накіраваныя на эканамічную інтэграцыю з Расійскай Федэрацыяй?»; «Ці згодны Вы з неабходнасцю ўнясення змяненняў ў Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, якія прадугледжваюць магчымасць датэрміновага спынення паўнамоцтваў Вярхоўнага Савета Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь у выпадках сістэматычнага або грубага парушэння Канстытуцыі?»

Дзесяткі міжнародных прадстаўнікаў-назіральнікаў, якія наглядалі выбары, заявілі прыблізна так: «выбары не адпавядалі міжнародным стандартам выбараў роўных і свабодных. Перад выбарамі дзеіла поўная цэнзура сродкаў камунікацыі, улада прэзыдэнта ўмешвалася ў выбары ды распаўсюджвала паклёпніцкую інфармацыю на апазыцыйных і не «прэзыдэнцкіх» кандыдатаў».

«Прэзыдэнцкая каманда» стварыла спэцыяльныя групы, якія на месцах дапілноўвалі выкананьне інструкцыяў і мерапрыемстваў па забясьпячэньню адпаведнага правядзеньня рэфэрэндума. Гэтак, прыкладам, кантроль усіх радыёперадачаў праводзіўся нейкім В.І. Ядрынцевым, які стварыў для правядзеньня радыё-кампаніі сваю групу: В.В. Гостюхин, М.В. Якжен, Н.М. Сергеев, Т. Опекунова, Ю.М. Дудинов і пару дзесяткоў іншых асобаў у асноўным прадстаўнікі арганізацыяў як Славянскі Сабор, камітэт «За свободный выбор языка обучения» і інш., людзі выпадковыя, не беларусы, варожыя да беларускай культуры, мовы ды зацятыя ворагі Беларускай Дзяржаўнасьці.

Асноўны націск у перадвыбарчым часе рабіўся як самым прэзыдэнтам, гэтак і ягонымі людзьмі, на рэфэрэндум, а выбары ў Вярхоўны Савет зводзіліся да падзеі другараднай, менш важнай. У выніку, у першым туры выбараў, з 260-х выбарчых акругаў, выбары адбыліся толькі ў 235-х акругах, зь якіх толькі ў 18-х акругах былі выбраныя дэпутаты.

Аб выніках рэфэрэндуму Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзеньню рэспубліканскіх рэфэрэндумаў паведамляла: па першаму пытаньню прагаласавалі 83,3% «за» і 12,7% «супраць». Рэшта — бюлетэні прызнаныя былі несапраўднымі; па другому пытаньню 75,1% «за» і 20,5% «супраць». Рэшта — бюлетэні прызнаныя былі несапраўднымі; за эканамічную інтэграцыю з Расейскай Фэдэрацыяй прагаласавалі 83,3% «за» і 12,5% «супраць». Рэшта — бюлетэні былі ануляваныя; за надацьцё прэзыдэнту спэцыяльных паўнамоцтваў у дачыненьні да Вярхоўнага Савету прагаласавалі «за» 77,7%, «супраць» 12,7%. Рэшта бюлетэняў былі ўняважненыя.

*(Працяг на 2 ст.)*

## АБ РЭФЭРЭНДУМЕ 14 ТРАЎНЯ

*Ухвала Сойму Партыі Беларускага Народнага Фронту*

Сойм адзначае, што рэфэрэндум, які з парушэньнем закону і Канстытуцыі быў праведзены 14 траўня 1995 г., праходзіў ва ўмовах прэзыдэнцкай манаполіі на сродкі масавай інфармацыі і друк. Грамадзтва ня мела магчымасьці знаёміцца з альтэрнатыўнымі поглядамі. Дзяржаўныя сродкі інфармацыі вялі аднабаковую паклёпніцкую прапаганду ў інтарэсах пазыцыі прэзыдэнта і ягой групы. Адбывалася масавая дэзінфармацыя людзей. Антыбеларускія сілы імкнуліся пазбавіць народ выбару, і гэта ў асноўным было дасягнута. Цяпер адной з галоўных задачаў Народнага Фронту становіцца падтрымка і стварэньне незалежных ад уладаў сродкаў масавай інфармацыі для данясеньня да людзей пазыцыі тых сілаў, якія выступаюць за дзяржаўную незалежнасьць Беларусі і дэмакратыю.

Галасаваньне па рэфэрэндуму, асабліва ў сельскай мясцовасьці, было сфальсыфікавана выканаўчымі ўладамі і іхнымі прадстаўнікамі ў выбарачных камісіях і на ўчастках пад кантролем мясцовай прэзыдэнцкай «вэртыкалі». Пра гэта сьведчаць шматлікія факты, зарэгістраваныя назіральнікамі як ад Партыі БНФ, так і іншымі. У шмат якіх сельскіх акругах не прыйшла галасаваць і палова грамадзянаў, унесеных у сьпісы для галасаваньня. Колькасьць тых, хто прагаласаваў, завышаная. І тым ня менш па другім і чацьвертым пытаньнях рэфэрэндуму прагаласавала «за» менш за палову ад агульнай колькасьці выбаршчыкаў.

Правядзеньне рэфэрэндуму ў антыдэмакратычных абставінах робіць ягоныя вынікі заведама нелегітымнымі і не дазваляе прызнаць іх за рэальнае волевыяўленьне народу. Гэтаксама ня будуць законнымі ўгрунтаваныя на выніках рэфэрэндуму захады, скіраваныя на абмежаваньне дэмакратыі і на зьнішчэньне незалежнасьці нашай краіны.

## АБ ВЫБАРАХ У ВЯРХОЎНЫ САВЕТ

*Ухвала Сойму Партыі Беларускага Народнага Фронту*

Першы тур выбараў у Вярхоўны Савет Беларусі адбываўся ва ўмовах манаполіі прэзыдэнцкай улады на сродкі масавай інфармацыі. Улады праводзяць палітыку хлусьні і паклёпу супраць Народнага Фронту і яго прадстаўнікоў. Афіцыйная інфармацыя пра выбары носіць тэндэнцыйны характар, адбываецца непасрэдная дэзінфармацыя насельніцтва.

У часе выбараў, якія праходзілі з парушэньнямі дэмакратычных нормаў і Закону аб выборах, назіральнікі адзначылі мноства фальсыфікацыяў, асабліва ў рэгіёнах і ў сельскай мясцовасьці. Усё гэта сьведчыць, што працягваецца антыбеларускі, прамаскоўскі рэванш, які пачаўся незаконнай забаронай рэфэрэндуму аб роспуску Вярхоўнага Савету ў 1992 г. і праявіўся ў путчы 12 красавіка 1995 г., калі ў парлямант былі ўведзеныя войскі і адбылася фізічная расправа над дэпутатамі Апазыцыі. У краіне фармуецца аўтарытарны рэжым.

Партыя Беларускага Народнага Фронту заклікае сваіх сяброў і ўсе дэмакратычныя арганізацыі краіны наладзіць пільны кантроль у другім туры галасаваньня, вылучыць назіральнікаў на ўсе выбарчыя ўчасткі, каб не дапусьціць фальсыфікацыяў і падтасовак з боку сілаў, якія любымі сродкамі хочуць правесьці кандыдатаў ад «вэртыкалі», старой партыйнай намэнклятуры і камуністаў. Заклікаем усіх, каму дарагая будучыня нашай краіны і народу, прагаласаваць супраць таких кандыдатаў, выбраўшы тых, хто адстойвае незалежнасьць Беларусі, дэмакратыю і нацыянальна-культурнае адраджэньне.

*г. Менск 21 траўня 1995 г.*

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 30 дал. за год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## РАЗЬВІТАНЬНЕ СА СЬЦЯГАМ

Бывай, наш бел-чырвона-белы —,
Спрадвечнай волі нашай Сьцяг.
Даруй, што памяць абмялела
Ад цемрашальскага жыцьця.

Бывай, наш Сьцяг, і не крыўдуй ты
На свой народ, сьляпы, як крот.
Ў любой дзяржаве ёсьць манкурты.
А тут манкурт — увесь народ.

Бывай, наш Сьцяг. Наўрад ці варта
Табе за тое чырванець,
Што хтось тасуе лоўка карты,
Каб пры ўладзе уцалець.

Бывай, наш Сьцяг, і не самотней,
Бо, хоць і цяжка на душы,
На стане наш народ гаротны
Пад сьцягам новым лепей жыць.

Бывай, наш Сьцяг абрабаваны.
Хай Бог цябе увераджэ
І ад зласьлівых гарлапанаў,
І ад пасадных пратэжэ.

Бывай, наш Сьцяг, бывай і ведай,
Што застанешся ў сэрцах тых,
Хто не пайшоў за прэзыдэнтам,
Каб даць гісторыі пад дых.

Бывай, наш Сьцяг. Я пэўна знаю,
Што пройдзе час — час забыцьця,
І над дзяржавай залунае
Зноў бел-чырвона-белы Сьцяг!

*16 мая 1995 я.*

**Анатоль Зэкаў**




*«Добры Вечар», 18 траўня 1995.* *Фота Ю. Захарава.*

### НЕПАРАКАНАЎЧЫЯ ВЫБАРЫ

*(Працяг з 1 ст.)*

Камэнтуючы вынікі рэфэрэндуму як друк, гэтак і палітычныя назіральнікі падкрасьляюць, што рэфэрэндум — акт не апраўданы законам.

Экспэрты ўважаюць, што рэфэрэндум быў праведзены насуперак вымогам і цьверджаньням канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Паколькі ў першым туры выбараў было абрана ўсяго 18 дэпутатаў зь 260 выбарчых акругаў, канстытуцыя рэспублікі прадугледжвала другі тур выбараў, які меў месца 11-га чэрвеня. Друк перад гэтым турам выбараў пісаў, што ў рэспубліцы пануе апатыя, пагляды на будучыню вельмі цёмныя, дык ад выбараў шмат чаго ня трэба спадзявацца. Тымжа часам вынікі другога туру выбараў разачаравалі нават і бадзёра настроеных грамадзянаў. Над рэспублікай лунаў «сіндром заняпаду» — гэтак акрэсьлілі назіральнікі выбары 11-га чэрвеня. У выніку выбараў 11-га чэрвеня у Вярхоўны Савет былі абраныя 119 дэпутатаў з патрэбных 260-х, што азначае, што парлямэнт Рэспублікі не абраны, а наступныя выбары могуць адбывацца толькі ўвосень. Гэткім парадкам застаецца дзейны стары, передвыбарчы парлямэнт.

Пры гэтым, у другім туры выявілася вялікая ненармальнасьць: выбары амаль цалкам былі праігнараваныя ў гарадох, амаль ва ўсіх выбарных акругах гарадоў зьявілася менш як палова зарэгістраваных выбаршчыкаў, а таму галасаваньне было бязвынікова. Іншая справа ў сельскіх мясцовасьцях: па усіх абласьцёх рэспублікі выбары ў сельскіх мясцовасьцях адбыліся. Назіральнікі тлумачаць гэтае зьявішча тым, што ў сельскіх мясцовасьцях, дзе выбары праходзілі амаль паўсюль без кантролю назіральнікаў, гэтыя выбары наўрад ці былі дэмакратычныя, мясцовыя начальнікі праводзілі выбары старымі мэтадамі.

Гэтакім парадкам, за год улады прэзыдэнта А. Лукашэнкі ў рэспубліцы эканамічнае становішча ніяк не палепшала, беспрацоўе значна павялічылася, рэспубліка далей улазіць у даўгі перад Расеяй. Новы парлямэнт не абраны, рэфэрэндум быў праведзены ня лічачыся з вымогамі канстытуцыі, сымболіка дзяржавы абражаная, а асноўны нацiск прэзыдэнта ў праводжаньні сваё палітыкі як найхутчэй уцягнуць Беларусь у структуру Расейскай Фэдэрацыі.

Для Беларусі насталі чорныя часы.

## СТАН РЭЛІГІІ НА БЕЛАРУСІ

**Інфармацыйнае Агенцтва «РІД», якое знаходзіцца ў Менску, адзін з сваіх травенскіх бюлетэняў прысьвяціла 2-му Міжнароднаму кангрэсу беларусістаў выдрукаваўшы ў ім цімала агульнае інфармацыі пра Беларусь. Аб стане рэлігіі ў Рэспубліцы дадзеньня ніжэй перадрукоўваем.**

Праваслаўе. На тэрыторыі краіны дзейныя 10 эпархіяў, 8 манастыроў. Сьвятароў рыхтуюць 2 духоўныя навучальныя ўстановы. Пры цэрквах дзейнічаюць 7 Брацтваў і 1 Сястрыцтва. Ад 1988 году царкоўным уладам перададзеныя 334 царквы. Будуецца 108 новых цэркваў.

Рыма-каталіцызм. Дзейныя тры эпархіі. У каталіцкіх прыходах адпраўляюць набажэнствы 167 ксяндзоў, зь іх грамадзянаў Польшчы — 107. Ад 1988 году вернікам перададзеныя 192 касьцёлы. Будуецца 27 касьцёлаў. У Гародні створаны аддзел міжнароднай дабрачыннай каталіцкай арганізацыі «Карытас» зь філіямі ў іншых гарадох рэспублікі. Нядаўна зарэгістраваны статут манаскае абшчыны (манастыра) рыма-каталіцкае кангрэгацыі «Сясьцёр Найсьвяцейшай Сям'і з Назарэта» ў Гародні.

Стараверы. У Беларусі дзейныя 29 прыходаў. Зь іх: 2 белакрыніцкай згоды, 2 беспапоўскай, 1 беглапапоўскай згоды. Усе прыходы дзейнічаюць аўтаномна.

Мусульмане. Дзейныя 15 абшчынаў. Працуе мячэць — у мястэчку Іўе (Гарадзеншчына). Рэстаўруюцца будынкі, у якіх разьмесьцяцца мячэці ў Навагрудку і ў Слоніме.

*(Ад рэдакцыі «Беларуса»).* У часе кангрэсу Беларусістаў, травень 1995, гарадзкая управа Менску зацьвердзіла заканадаўства аб перадачы мусульманскай грамадзе Менску некалькіх гэктараў зямлі (раён вуліцы Апанскага), на якой будзе збудаваная мячэць і Мусульманскі Культурны Цэнтр.

Юдаізм. Працуе 9 абшчынаў. Заснаваны ешыбот у Менску. Арганізаваныя 5 грамадаў прагрэсыўнага юдаізму.

Грэка-каталіцызм. Дзейныя 11 абшчынаў (адна незарэгістраваная). Высланы адзін кандыдат на студыі ў Рым.

Адвэнтысты сёмага дня. Дзейныя 26 абшчынаў (зь іх тры незарэгістраваныя). Служаць 34 пастыры і 52 прэсьбітары. Малельных дамоў — 17 (зь іх два ў Менску). Створаныя розныя дапамаговыя й культурныя арганізацыі.

### У АБАРОНЕ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Каардынацыйны Камітэт Абароны Беларускай мовы, Менск, патрабуе ад Міністэрства адукацыі і навукі наступнае:

1. Неадкладна спыніць разбураньне беларускай мовы.
2. Адклікаць указаньне Міністра апірацца на выніку рэфэрэндуму у практыцы фармаваньня першых клясаў.
3. Захаваць існуючы стан беларускай школы, які склаўся да 14-га траўня 1995 г.
4. Спыніць апытаньне бацькоў будучых першаклясьнікаў і бацькоў школьнікаў беларускіх клясаў наконта выбару мовы навучаньня.
5. Забясьпечыць і правесьці набор дзяцей у першыя беларускія клясы краіны.
6. Стварыць беларускамоўную сыстэму Вышэйшых навучальных установаў, стварыць Беларускі Нацыянальны Унівэрсытэт.
7. Падрыхтаваць да выданьня беларускія падручнікі.
8. Захаваць беларускамоўныя садкі, і інш. пункты.

У практычнай дзейнасьці Міністэрства павінна абапірацца на Канстытуцыю Беларусі, Закон аб мовах і Закон аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь.

## БЕЛАРУСКАЕ ГЕНЕАЛЯГІЧНАЕ ТАВАРЫСТВА

Беларускае генеалягічнае таварыства можа аказваць прадстаўнікам беларускай дыяспары наступныя паслугі:

1. Даваць агульныя кансультацыі аб тым, у якіх архівах трэба шукаць зьвесткі аб сваіх продках і якую інфармацыю неабходна ведаць для пачатку пошукаў.
2. Выступаць пасрэднікам пры устанаўленьні кантактаў з прыватнымі асобамі, якія будуць весьці генеалягічныя пошукі у архівах на ўмовах асабістага пагадненьня з заказчыкам.
3. Непасрэдна выконваць генеалягічныя запыты, аднаўляць радаводы, выраблядь копіі архіўных дакумэнтаў (пры ўмове, што заказчык ведае мінімальна неабходныя зьвесткі, а ў архівах захаваліся адпаведныя дакумэнты).

Як правіла, генеалягічны пошук магчымы, калі кліент ведае прозвішча і месца жыхарства сваіх продкаў (населены пункт, павет альбо раён). Пажадана таксама ведаць веравызнаньне (каталіцкае, праваслаўнае, іудзейскае ці інш.) і сацыяльны статус (шляхта, мяшчане, сяляне і інш.).

Звычайна генеалягічнае таварыства дае кансультацыі бясплатна, а пры выкананьні запытаў патрабуе ад кліента кампэнсацыі непасрэдных выдаткаў (кошт ксэракопіяў, камандзіроўкі ў выпадку пошукаў у розных гарадах і пад.). Аднак для таго, каб мець магчымасьць дзейнічаць, таварыства вельмі зацікаўлена ў дабрачынных ахвяраваньнях, якія прыймае на свой валютны разьліковы рахунак № 37070111/0539/001 у Галоўным упраўленьні АКБ «Белбізнесбанк» па Менскай вобласьці, г. Менск, код 737.

Калі вы жадаеце атрымаць дакументальныя звесткі аб сваіх далёкіх і блізкіх продках зь Беларусі, калі ласка, зьвяртайцеся ў Беларускае генеалягічнае таварыства: вул. Калектарная, 10, пакой 208. 220048 Мінск, Рэспубліка Беларусь, тел. (0172) 208760, (0172) 208830, факс (0172) 205120,

**В.Л. Насевіч**

*З жыцьця ў Чыкага*

## КАНЦЭРТ «СЯБРОЎ»

11-га сакавіка сёлета гурт «Сябры» з удзелам саліста Віктара Вуячыча пад кіраўніцтвам народнага артыста Анатоля Ярмаленка выступіў з канцэртам у залі Сынагогі Эмануэля ў Чыкага. Вельмі прыемна было пачуць анонс Анатоля Ярмаленкі пабеларуску: «Спадары і спадарыні, я буду гаварыць па беларуску, хіба гэта вам усім зразумела...» Нажаль бальшыня прысутных, аднак, зажадала, каб было парасейску. З увагі на гэта, Анатоль Ярмаленка сказаў, што побач беларускага апавешчаньня будзе даваць і расейскае.

Ансамбаль выконваў беларускія й расейскія песьні. Вялікай папулярнасьцю карысталася песьня «Шумяць бярозы» на словы Ніла Гілевіча, кампазыцыі Ханука, бо ўся зала далучылася і сьпявала разам з выканаўцамі. Наагул беларускія песьні выклікалі захапленьне і шчырыя воплескі публікі.

## БЕЛАРУСКІМ РАДЫЁПЕРАДАЧАМ У ЧЫКАГА 35 ГАДОЎ

25-га сакавіка беларуская радыёперадача «Нёман», кіраўніком і адным з заснавальнікам якой ёсьць Нікадэм Жызьнеўскі, адзначыла 35-цігодзьдзе свайго існаваньня.

З гэтай нагоды губэрнатар штату Іліной, Джым Эдгар даслаў кіраўніку беларускіх радыёперадачаў Нікадэму Жызьнеўскаму прывітальны ліст у адзнаку за добрую й доўгагадовую працу у інфармаваньні беларускіх слухачоў аб усіх справах кранаючых іх. Губэрнатар пажадаў яму плённай працы ад імя грамадзян штату Іліной.

Радыёперадача ўтрымліваецца з дабравольных складкаў сваіх слухачоў. Радыёпраграма, якая ўключае весткі зь Беларусі, агляд прэсы, розныя мясцовыя паведамленьні, перадаецца раз у месяц на украінскай праграме сп-ва Самбірскіх.

## САКАВІКОВЫЯ ЎГОДКІ



*Беларускі сьцяг пры Гарадзкой Управе Чыкага*

У дзень 25-га сакавіка беларускі сьцяг залунаў побач амэрыканскага на Гарадзкой Управе ў Чыкага.

Праграму адзначэньня 77-х угодкаў Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі ладзіў Беларускі Каардынацыйны Камітэт Чыкага у нядзелю 2-га красавіка. Пасьля ўрачыстае літургіі ў каталіцкай Царкве Хрыста Збаўцы, якую адслужыў айцец Джон Мэк Данэл з адпаведняй казаньню на гэты дзень, сьвяточная грамада сабралася ў рэстаране «Цэфалю» на ўрачыстую акадэміей.

Праграма, якой кіраваў Др. Ролянд Талівэр, пачалася адсьпяваньнем амэрыканскага гімны пад кіраўніцтвам Эдвіна Вокэра. Прынагодную малітву сказаў а. Мак Данэл просячы Усявышняга Бога каб паслаў дух еднасьці беларускаму народу, ды ўсе прысутныя прапяялі «Магутны Божа».

Старшыня БККЧ Міжась Сысой прывітаў усіх прысутных па-беларуску, а сп-ня Вера Рамук па-ангельску. Хвілінай маўчаньня былі ўшанаваныя ўсе гэроі, што аддалі свае жыцьцё для Бацькаўшчыны, а гэтаксама адыйшоўшыя ад нас летась сяброўкі Беларускага Каардынацыйнага Комітэту сп-ні Эўдокія Жызьнеўская і Тэрэса Тарасэвіч.

У часе абеду былі прадстаўленыя запрошаныя госьці, сп-ня Роз Фарына з мужам і Эва Бэтка. Сярод прысутных на залі былі: сп-ня Вольга Фадзеева, аўтарка кнігаў «Беларускі ручнік» і «Беларуская народная вышыўка», прафэсар Палітэхнічнага Інстытуту ў Менску, Сямён Ісковіч з жонкай і мастак Юзэф Пучынскі з жонкай.

Сп-ня Эмі Паркэр, якая адаптавала двое беларускіх дзяцей з Гомеля паінфармавала, што "City Hope" вязе транспарт прадуктаў і мэдыкаментаў для беларускіх дзяцей, ахвяраў Чарнобыля і заклікала дапамагаць гэтай арганізацыі.

Са зьмястоўным рэфэратам выступіў сп. Ванкарэм Нікіфаровіч, журналіст, літаратуразнаўца й пісьменьнік, у якім прадставіў гісторыю утварэньня БНР, сталінскія рэпрэсіі, сучасную складаную сытуацыю ў Беларусі і закончыў вершым-малітвай Рыгора Барадуліна «Маленьне за Беларусь».



*Ванкарэм Нікіфаровіч чытае даклад, побач Др. Роланд Талівэр*

Прывітаньне амэрыканскім беларусам ад прэзыдэнта Клінтана прачытаў др. Ролянд Талівэр, а ў тлумачэньні на беларускую мову — сп-ня Вера Рамук.

Праклямацыю ад губэрнатара Іліной Джыма Эдгара і прывітаньне ад ягонага намесьніка сп. Кустра прачытала сп-ня Эва Бэтка, асыстэнтка намесьніка губэрнатара.

Ад мэра гараду Чыкага Рычарда Дэйлі прывітала сп-ня Роз Фарына, кіраўнічка выставаў і імпрэзаў пры гарадзскай Управе.

Сп-ня Вера Рамук нагадала аб атрыманьні прывітаньняў ад беларускага амбасадара у Вашынгтоне Сяргея Мартынава ды ад беларуска-амэрыканскіх арганізацыяў.

У гэтым годзе плякэтку узнаньня ад Беларускага Каардынацыйнага Камітэту Чыкага ўручыла сп-ня Вера Рамук Ванкарэму Нікіфоровічу за яго даўгадовую працу для беларушчыны.

З дэклямацыяй верша Максіма Багдановіча «Пагоня» выступіла Аліна Мясьнікова-Вайман ды прачытала ягоны «Санэт» у ангельскім тлумачэньні Веры Рыч.

У вакальна-музычнай праграме выступіў кампазытар і сьпявак Міхась Клейнэр-Парыч зь песьнямі сваёй кампазыцыі на словы беларускіх паэтаў, пад акампаніямэнт на гітары Якава Кантаровіча.

Трох беларускіх мастакоў экспанавалі свае абразы ў банкетавай залі: вядомы мастак Юзэф Пучынскі выставіў партрэт Янкі Купалы; Анатоль Упарт — Маці Божую, а Леанід Асеньні сваіх вучняў-дзяцей «Гуканьне вясны», «Купальле» і інш.

У кароткім слове мастак Ю. Пучынскі прывітаў прысутных са сьвятам і падараваў партрэт Янкі Купалы свайго выкананьня Беларускаму Каардынацыйнаму Камітэту.

Сп. Леанід Пранчак, пісьменьнік, паэт, аўтар кніжкі «Беларуская Амэрыка» коратка прадставіў складаную сытуацыю ў Беларусі і прадэклямаваў свой прынагодны верш.

Заканчальную малітву сказал а. Мак Данэл, а кіраўнік цэрэмоніі др. Ролянд Талівэр падзякаваў усёй грамадзе.

Акадэмія скончылася адсьпяваньнем беларускага гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» пад кіраўніцтвам М. Клейнэра-Парыча.

## САКАВІКОВЫЯ ВЫСТАЎКІ

Дзьве выстаўкі прымеркаваныя да Сакавіковых угодках былі наладжаныя Беларускім Каардынацыйным Камітэтам у Чыкага.

Адна ў Дэйлі Цэнтры — трывала ад 20-га сакавіка да 2-га красавіка. У чатырох габлётках былі выстаўленыя інфармацыйныя й артыстычныя экспанаты: матар'ял пра акт 25-га Сакавіка, даведкі пра беларусаў, кніжкі славутных беларускіх паэтаў, факсімільнае выданьне Бібліі Ф. Скарыны, слоўнікі, энцыклягпэдыі і інш., дэкарацыйныя талеркі з выявамі Царквы-Замку у Мала-Мажэйкаве, Мірскага Замку, Царквы-Замку у Сынкавічах, Пётрапаўлаўскай Царквы ды Траецкага Прадмесьця ў Менску; крыштальны посуд, выраб шклозаводу «Нёман» ды апісаньне пра яго вытворчасьць; розныя народна-мастацкія вырабы, як інкрустацыя саломкай, вялікоднія яйкі, драўляны кубак для піва прывезены зь Беларусі, ды інш.

Другая выстаўка была наладжаная у Штатным будынку ў Чыкага у днёх 27-31 сакавіка. Тут былі разьмешчаныя здымкі дзяцей, ахвяраў Чарнобыльскай аварыі, зробленыя фатографам Антолем Кляшчуком. Невялікая карта Беларусі выдадзеная "City Hope", арганізацыяй, што дапамагае ахвярам Чарнобыля. Даведка пра Беларусь, інфармацыя пра беларускую флёру, вялікодния дэкаратыўныя яйкі ды беларускі крышталь дапаўнялі выставу.

За наладжаньне выставак падзяка нележыцца спадарыням Веры Рамук і Ірэне Пануцэвіч ды сп. Нікадэму Жызьнеўскаму. Міхасю Махначу «дзякуй», што пазычыў дэкаратыўныя талеркі на выставу.

**Др. Вітаўт Рамук**

## ПАСЕДЖАНЬНЕ РАДЫ БАПЦ

У сыботу дня 3-га чэрвеня сёлета адбылося ў Кліўлендзе чарговае Паседжаньне Рады Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. У нарадах узялі ўдзел 11 сяброў Рады на чале зь Першым Герархам БАПЦ Мітрапалітам Мікалаем. Мэтай паседжаньня было разгледзець сучаснае палажэньне БАПЦ ды падзеі й зьмены ў жыцьці Праваслаўных Цэркваў у сьвеце нагул. У апошні час некаторыя праваслаўныя цэрквы пачалі шукаць збліжэньня з Канстантынопалем, як напрыклад Украінская Аўтакефальная Праваслаўная Царква ў Амэрыцы. Прысутныя, у аснаўным, выказалі думку, што мы не павінны сыходзіць за шляху Аўтакефальнасьці Беларускай Праваслаўнай Царквы — шляху Мітрапалітаў Цамблака (15-е стагодзьдзе) і Мітрапаліта Мэлхісэдэка (гэтае стагодзьдзе), са шляху, які прадаўжае сяньня Мітрапаліт Мікалай. У выніку дыскусіяў была створаная камісія ў складзе Мітрапаліта Мікалая, Мітр. Прат. Васіля Андрэдка й сп. М. Ганька. Камісія дасьледуе гэтае пытаньне й дасьць справаздачу й рэкамандацыю Радзе БАПЦ. Была адзначана далейшая выдавецкая праца Ўладыкі Мікалая — другое выданьне Беларуска-Ангельскага "Service Book" — «Службоўніка» ў 1994-ым годзе, праца а. Ю. Пурыца з дзецьмі ў Каліфорніі й пачаткі навучаньня рэлігіі для дзяцей у ангельскай мове ў Парахвіі Божай Маці Жыровіцкай у Гайленд Парк, Н. Дж.

Сп. А. Сільвановіч, Скарбнік Фонду Дапамогі Ахвярам Чарнобыля, паінфармаваў, што год таму назад Фонд даставіў праз установу СІТЫ ГОП мэдыкамэнты й мэдычныя матарыялы на суму паўтара мільёны даляраў. Дапамога была разьдзеленая між 18-цю шпіталямі, клінікамі й дзіцячымі дамамі ў гарадох: Менск, Гомель, Магілёў, Маладэчна й Вялейка. За ўвесь час свае дзейнасьці Фонд даставіў дапамогу Беларусі на суму больш як 5 мільёнаў даляраў. Установа СІТЫ ГОП адзначыла працу Фонду Дапамогі Ахвярам Чарнобыля спэцыяльнай граматай.



*Прадстаўнік City Hope уручае грамату Фонду Чарнобыля БАПЦ на парафіяльным сьвяце Жыровіцкае Божае Маці ў Гайланд Парку, Нью-Джэрзы. Фота Ніны Сільвановіч*

Разважаліся пытаньні культурнаасьветнага ды ўзгадаваўчага характару й вырашана зьвярнуць больш увагі на пашырэньне ў парахвіях, беларускіх грамадзкіх асяродках, ды калі магчыма ў Беларусі, ідэяў дэмакратыі, гуманнасьці й ахвярнасьці.

**Васіль Русак**



*Духавенства, Царкоўны Камітэт, хор і госьці каля царквы. Фота Я. Кульбеды*

## СЬВЯТА ПАТРОНКІ Й 35-ЫЯ ЎГОДКІ ЦАРКВЫ

Парахвія Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе заўсёды ўрачыста адзначала сьвята Патронкі. Сёлета яно было спалучанае з 35-тымі угодкамі высьвячэньня будынку царквы, якое адбылося ў 1960 годзе.

Праграма пачалася ў сыботу 3-га чэрвеня, 1995 г. у Грамадзкім Цэнтры Полацку. Спачатку, а 11-ай гадзіне раніцы адбылася Нарада Беларускае Аўтакефальнае Царквы (БАПЦ), у якой прынялі ўдзел Мітрапаліт Архіяп. Мікалай Першы Ярарх БАПЦ, сьвятары з парахвіяў і сябры Рады БАПЦ. А 3-ай гадзіне папаўдні адбыўся пікнік на плошчы Полацку, дзе віталі духавенства й прыбыўшых гасьцей зь іншых штатаў.

У нядзелю 4-га чэрвеня а 9:30 раніцы пачалося ўрачыстае сьвяткаваньне. А 10-ай пачалася Архірэйская Літургія, ачоленая Мітр. Мікалаем з удзелам 4-ох сьвятароў і дыяканам. Служба прайшла ўрачыста ў добрым выкананьні царкоўнага хору. У канцы Літургіі Мітр. Мікалай сказаў прыгожую казань на тэму: «Лягчэй даваць, чым браць», якую ён параўняў да будовы парахвіяльнай царквы ў Кліўлендзе. Парахвіяне, прыехаўшы з Эўропы будучы бедныя, не чакалі пакуль хто дапаможа фінансава, а злажылі свае апошнія ахвяры й пабудавалі царкву, а таксама шмат спрычыніліся сваёй ахвярнай працай пры будоўлі, чым зашчадзілі фінансава.

Затым быў адслужаны малебень з працэсіяй навокал царквы зь вялікім удзелам прысутных.

А 1:30 па-абедзе адбыўся банкет у залі Грамадзкага Цэнтру Полацку. Абед быў багаты, добра прыгатаваны жанчынамі парахвіі, за што ім належыць вялікая падзяка.

Праграму адкрыў настаяцель прат. Міхась Страпко. Ён прывітаў прысутных: духавенства, матушак, гасьцей зь Нью-Джэрзі, Канады, Дэтройту, Чыкага і усіх прысутных. Затым а. Страпко расказаў гісторыю парафіі, выменяючы пераважна адышоўшых на вечны супачынак: япіскапаў, сьвятароў, дыяканаў, дырыгэнтаў, царкоўных старстаў, сяброў парахвіяльнае рады. Прыпомніў а. Страпко і пачаткі Беларускае далаўняльнае школы.

Старшыня Парахвіяльнай Рады Ольга Дубаневіч-МакДэрмот, у сваім выступе больш прысьвяціла ўвагі 35-ым угодкам царквы. Яна выменіла, што нашыя бацькі й маткі, прыехаўшы з Эўропы пасьля вайны ў Амэрыку, былі бедныя, але працавітыя, дружныя, зьяднаныя ў беларускую калёнію. Купіўшы пляц ў горадзе Кліўленд, пабудавалі царкву, усе разам фінансавалі, шмат спрычыніліся самі ў будове, працуючы ахвярна пасьля працы вечарамі й сыботамі. Наладзілі добра царкоўнае жыцьцё, традыцыйныя сьвяткаваньні. Зарганізавалі сыботную школку для дзяцей, дзе вывучалі беларускую мову, рэлігію, гісторыю, народныя танцы. Наша парахвія гэтаксама належала й брала ўдзел у арганізацыі праваслаўных царкваў гораду Кліўленд. Вялікім асягненьнем было здабыцьцё сэкцыі беларускага магільніка (больш 2000 магілак) на магільніку Рывэрсайд. Важнай падзеяй было наладжаньне бінга, што дало вялікую фінансавую дапамогу. Затым яна шчыра падзякавала парахвіянам за іхнюю ахвярную працу пры будове царквы й разьвіцьці парахвіі, а тым, што адышлі зарана на вечны супачынак, пажадала супакою ў царстве небесным.

Наступнай часткай праграмы быў канцэрт ведамай слаўнай артысткі Валі Пархоменка-Казак з мужам Алесям і дачкою Оляю, якія вельмі добра выканалі шмат беларускіх народных песьняў, жартоўных палескіх і цяперашніх новых, што вельмі спадабалася прысутным ды ўсе адчулі сябе спалучаныя з Бацькаўшчынай.

Апошняй часткай праграмы былі супольныя танцы пад аркестру Пархоменкаў. Танцы прадаўжаліся доўга й закончыліся песьняй «Люблю наш край».

## ДЗЕНЬ МАЦІ

Парахвіяльная рада штогоду адзначае сьвята Дзень Маці. Гэта пераважна сямейнае сьвята, але паколькі нашыя Маткі актыўныя й ахвярныя ў беларускай калёніі, дык ушаноўваецца гэты дзень супольна. Сьвяткаваньне адбылося 14-га травеня 1995 г. Пасьля сьв. Літургіі быў адпраўлены малебень за Матак. Настаяцель Міхась Страпко прывітаў Матак зь іхнім днём, пажадаў ім і іх сем'ям добрага здароўя, шчасьлівага й вясёлага жыцьця ды прасьпявалі ім «Многае лета». Затым адбылося прыняцьцё для Матак у царкоўнай залі. На дэзэрт быў спэцыяльны каравай. Ад парахвіі уручылі Маткам вазоны кветак. Бяседа прадаўжалася ў вясёлым настроі зь песьнямі.

## АДКРЫЦЬЦЁ СЭЗОНУ ПІКНІКАЎ

Камітэт Беларуска-Амэрыканскага Цэнтру Полацку наладзіў адкрыцьцё сэзону пікнікаў, які адбыўся 28-га травеня 1995 г. А 11:00 раніцы была адпраўлена Божая служба ў залі Полацку а ў 12:30 распачаўся пікнік, які пераважна быў у залі, бо надворе было зьменнае дажджавое. Абед быў багаты, добра прыгатаваны. У часе абеду грала інструментальная музыка.

А 5-ай гадзіне пачаліся агульныя танцы, пад аркестру Пятра Скепкі зь Нью-Джэрзі, добрае выкананьне якога зь беларускім зьместам вельмі спадабалася танцорам, якія часта далучаліся да музыкі сваімі сьпевамі.

Пачынаючы ад гэтай нядзелі, пікнікі плянуюцца на Полацку кожнае нядзелі пасьля царкоўных службаў, дзе сябры беларускае калёніі й госьці змогуць спаткацца, паесьці, заняцца гульнямі, спортам, пасьпяваць, прыемна й весела правесьці час на сьвежым паветры.

К.П.

# КАНГРЭСЫ Ў МЕНСКУ

## Другі Міжнародны Кангрэс Беларусістаў

16-18-га траўня сёлета ў Менску праходзіў другі кангрэс дасьледчыкаў беларусікі (першы адбыўся ў траўні 1991 году). У працах кангрэсу ўзялі ўдзел каля 300 дэлегатаў з блізу 20-х краінаў сьвету. Са Злучаных Штатаў Амэрыкі ў кангрэсе ўдзельнічалі Зора і Вітаўт Кіпелі, Васіль Мельяновіч, а з Канады сп-ня Раіса Жук-Грышкевіч.

З прывітальнымі словамі кангрэсу выступалі др. Вячаслаў Рагойша, віцэ-прэзыдэнт АН Беларусі Радзім Гарэцкі, старшыня Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва др. Вітаўт Кіпель, пасол Польшчы ў Беларусі др. Альжбэта Смулкова, прэзыдэнт японскай асацыяцыі беларусістаў др. Дзюн Іці Сата, Джым Дынглі – старшыня Беларуска-Англійскага Таварыства, др. Яўген Шыраеў – прэзыдэнт Міжнароднай Акадэміі Навук Эўразіі, Найдзен Вылчаў – прадстаўнік беларусістаў Баўгарыі, сп. Ніл Гілевіч – старшыня камісіі па адукацыі, культуры і захаваньню гістарычнае спадчыны у Вярхоўны Савеце Беларусі, фінска-беларускі мастак Аляксандр Ахола-Вало.

Кангрэс працаваў у дзесяткох сэкцыяў, у якіх было прачытана каля 200 дакладаў з розных галінаў беларусаведы. Адна сэкцыя была прысьвечаная дыяспары (улучаючы блізкое й далёкае замежжа). Гэтай сэкцыяй кіравалі др. Вітаўт Кіпель і прафэсар Галіна Сяргеева. Ад эміграцыі з дакладамі выступалі сп-ня Зора Кіпель, др. Вітаўт Кіпель і др. Ра-са Жук-Грышкевіч, а тэмы зьвязаны з эміграцыяй былі распрацаваныя ў дакладах: Леаніда Лыча «Ідэя беларусізацыі 20-х гадоў у нацыянальна-культурным жыцьці беларускай дыяспары»; Галіны Сяргеевай «Беларуская дыяспара ў гады Другой сусьветнай вайны»; Міколы Іванова «Рыжскі мір 1921 г. і эміграцыйны урад БНР»; Яна Чыквіна «Натальля Арсеньнева — між Вільняй і Рачэстэрам» і Галіны Алейнік «Выданьні беларускага замежжа ў фондах Нацыянальнай Бібліятэкі».

У праграме кангрэсу адбыліся таксама паседжаньні шэрагу круглых сталоў прысьвечаных міжнацыянальным дачыненьням як у Рэспубліцы Беларусь, гэтк і дачыненьням дзяржаўным. Гэтак працавалі круглыя сталы: польска-беларускі, беларуска-украінскі, літоўска-беларускі, латыска-беларускі і расейска-беларускі. Адно паседжаньне круглага стала было прысьвечанае лёсам беларускіх матар'яльных каштоўнасьцяў перамешчаных ў дваццатым стагодзьдзі.

Вечарамі, у дні кангрэсу, адбываліся розныя мастацкія імпрэзы – тэатральныя, эстрадна-фальклёрныя, дзіцячыя, ды выступы ансамбляў народных інструмэнтаў.

У апошні дзесь кангрэсу адбыліся выбары кіруючых органаў Міжнароднай Асацыяцыі Беларусістаў і ў Выканаўчы орган асацыяцыі ад амэрыканскай дыяспары быў выбраны др. Вітаўт Кіпель. Гэтаксама на заключным плянарным паседжаньні Кангрэсу д-ру Вітаўту Кіпелю быў уручаны дыплём паўнапраўнага члена Міжнароднай Акадэміі Навук.

* * *

Другая міжнародная навукова-практычная канфэрэнцыя **Ісламская Культура Татараў-Мусульман Беларусі, Літвы і Польшчы і яе узаемадзеяньне зь беларускай і іншымі культурамі»**. Гэтая канфэрэнцыя адбывалася ў Менску 19-20-га траўня і гэтаксама прыцягнула шмат удзельнікаў ды назіральнікаў.

На канфэрэнцыі было прадстаўлена больш паўсотні дакладаў, бальшыня зь якіх мелі беспасярэднае дачыненьне да гісторыі пасяленьня і культурных дачыненьняў паміж беларусамі і мусульманамі. У працах канфэрэнцыі бралі ўдзел дзесяткі прафэсароў з эўрапэйскіх, амэрыканскіх і блізка-далёка усходніх унівэрсытэтаў, прадстаўнікі дыпляматычнага корпусу ды дэлегаты мусульманскіх абшчынаў цэлага сьвету. Ад беларусаў кангрэс віталі: сп-ня Ганна Сурмач, др. Вітаўт Кіпель, др. Анатоль Грыцкевіч і др. Васіль Кушнер.

### *Майстра па вырабу беларускіх музычных інструмэнтаў*

Майстра Віктар Кульпін вырабляе жалейкі, дуды, чароткі, саломкі і інш. На ягоных інструмэнтах граюць у аркестрах ансамбляў «Сьвята», «Палац», «Песьняры», «Ліцьвіны» ды дзесяткі іншых як на Бацькаўшчыне гэтак і паза яе межамі.

Зацікаўленыя музыканты, ансамблі, выставачныя групы могуць зварачацца па адрасу:

Віктар Кульпін
Рэспубліка Беларусь
гор. Мінск,
вул. Рафіева, д. 31, кор. 2, кв. 209

# НА КАНФЭРЭНЦЫІ СЛАВІСТАЎ КАНАДЫ



*Праф. Том Бэрд і Паўлінка Сурвілла працуюць над рэзалюцыяй. Фота Зіны Гімпелевіч*

Гадавая канфэрэнцыя Канадыйскай Асацыяцыі Славістаў адбылася сёлета у днях 1-3-га чэрвеня на Квэбэкскім Унівэрсытэце ў Монтрэалі, у рамках Кангрэсу Навуковых Таварыстваў Канады. Дзьве сэсіі канфэрэнцыі славістаў былі прысьвечаныя беларускай культуры, а менавіта пісьменьніку Васілю Быкаву, сучаснаму беларускаму тэатру і музыказнаўству.

У дакладзе на тэму «Бедныя людзі» у трох апошніх апавяданьнях Быкава, Др. Зіна Гімпелевіч падкрэсьліла ролю пісьменьніка ды паказала яго мейсца ў традыцыі славянскай і сусьветнай літаратуры. Параўноўваючы «бедных людзей» у апавяданьнях Быкава «На Чорных Ладах», «Перад канцом» і «Бедныя людзі» да ідэі «беднага чалавека» у Гогалеўскай «Шынэлі», ды бедных людзей Дастаеўскага і Діккенса, Др. Гімпілевіч заўважыла, што толькі ў Быкава гэроі бедныя таму, што ім дадзена жыць пад рэжымам які забраў ад іх чалавечую годнасьць. Усе тры апавяданьні абядноўваюцца, аднак, ідэяй, што пакуль існуе ў людзей спагада й пачуцьці, ёсьць надзея, што працэс дэгуманізацыі чалавека, а мо і нацыі, можна стрымаць.

У дакладзе прысьвечаным перакладам Быкава на ангельскую мову, Зора Кіпель зазначыла, што ўсе творы пісьменьніка выдадзеныя на ангельскай мове (The Third Rocket, Alpine Ballad, The Ordeal/Sotnikov, Live Until Dawn, Wolf Pack, His Battalion, To Go, Never to Return and Sign of Misfortune) былі, нажаль, перакладзеныя не зь беларускага арыгіналу, а з расейскага перакладу. Сп-ня Кіпель зрабіла цікавы параўнальны аналіз двух ангельскіх перакладаў таго-ж самага роману, «Знак Бяды» (*Portent of Disaster*, by Nigel Timothy Coey, Minsk, 1989 і *Sign of Misfortune* by Alan Myers, New York, 1990), у якіх заўважыла шмат недакладнасьцяў якраз таму, што пераклады былі зробленыя ня з мовы на якой былі напісаныя, а з расейскага перакладу, хоць у менскім выданьні і сказана, што пераклад з мовы беларускай. Прыемна было даведацца, што творы Васіля Быкава былі перакладзеныя на 52 мовы сьвету.

Др. Вітаўт Кіпель у зьмястоўным дакладзе пад загалоўкам «Васіль Быкаў у беларускіх публікацыях за мяжой» зьвярнуў увагу на факт, што беларускія літаратурныя крытыкі на эміграцыі, Станкевіч, Сядура, Адамовіч, Плашчынскі, зацікавіліся Быкавым доўга перад тым як яго прызнала савецкае літаратуразнаўства. Аналіз твораў Быкава беларускімі літаратуразнаўцамі на Захадзе і да сяньня розьніцца ад літаратурнай крытыкі ў Беларусі. Ад 1985-га году Быкаў стаўся для нас важным палітычным сымбалем, які прысьпешыў нацыянальнае адраджэньне. Др. Кіпель закончыў свой даклад наступнай цытатай Быкава: «Толькі адна Беларусь можа існаваць, гэта Беларусь вольная і незалежная».

Беларуская сэсія аднагалосна прыняла рэзалюцыю падтрымаць намінацыю Васіля Быкава на Прэмію Нобэля. Рэзалюцыя гэтая была прачытаная на пленарнай сэсіі Асацыяцыі Славістаў Канады і была адобраная доўгімі воплескамі усіх удзельнікаў канфэрэнцыі.

На другой беларускай сэсіі Канфэрэнцыі даклады былі прысьвечаныя выяўленчаму мастацтву, сучаснаму беларускаму тэатру й музыцы.

У дакладзе на тэму «Творы Быкава ў інтэрпрэтацыі мастакоў», мастачка Галіна Русак гаварыла пра ілюстрацыі твораў пісьменьніка ў выкананьні мастакоў-графікаў Юрася Герасіменкі, Арлена Кашкурэвіча, Рыгора Паплаўскага, Пётры Калініна, Ільлі Немагая, Яўгенія Ігнацэвіча, Ісака Давідовіча, Уладзімера Сутчанкі і М. Веціка. Дакладчыца паказала сэрыю дыяпазытываў, камэнтуючы мастацтва выканаўньня бальшыні ілюстрацыяў і трапнасьць іх зьместу. Мастакі зразумелі й перадалі ў сваіх творах псыхалёгію гэрояў Быкава ды іх пачуцьці у розных складаных абставінах. На думку дакладчыцы, Герасіменка найлепш, магчыма, здолеў паказаць у ілюстрацыі рамана «Знак Бяды» найбольш абстрактныя паняцьці ў творчасьці Быкава — страту веры, страту нявіннасьці, страту людзкой вартасьці.

Прафэсар Томас Бэрд прысьвяціў свой даклад творам трох сучасных драматургаў, Алеся Петрашкевіча, Мікалая Матукоўскага і Алеся Дударава. Дакладчык прааналізаваў нацыянальныя і гістарычныя тэмы ў трох драматургаў на фоне сацыяльным і палітычным. Даклад быў ілюстраваны цытатамі з твораў.

У дакладзе «Русалкі і сьпевакі року: зьмены й магчымасьці у сучасным беларускім музычным выяўленьні» Марыя Паула Сурвілла-Вахманн пазнаёміла слухачоў з двума жанрамі беларускай музыкі: традыцыйным жаночым сьпевам і новым сучасным (народным) рокам. Мэтай дакладу было паказаць, як абмен эстэтыкай і рэпэртуарам сельскімі й гарадскімі стваральнікамі музыкі адлюстроўвае лепшыя магчымасьці культурнага выбару, як для выканаўцаў гэтак і для публікі. У дадатак да шырокай магчымасьці выбару з запазычаньняў і перапрацоўцы традыцыйнай музыкі гарадзкімі музыкантамі, дакладчыца разгледзіла цікавае перамяшчэньне ад жаночага выкананьня у сельскім асяродзьдзі да мужчынскіх сьпевакоў у гарадзкіх цэнтрах.

Пасьля дакладаў адбыліся дыскусіі, часам вельмі ажыўленыя й цікавыя.

**Івонка Сурвілла**

# ВАНДРОЎКІ ПА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

Цяпер ёсьць рэальная магчымасьць стварэньня на тэрыторыі усходняй Беласточчыны турыстычнай дзейнасьці выкарыстоўваючы прыродныя й культурна-этнічныя вартасьці рэгіёну. Першыя крокі ўжо зробленыя. Некалькі асоб, шчырх беларусаў, арганізоўваюць суполку, якая пачала ажыцьцяўляць турыстычныя паслугі.

Сёлета, як і ў мінулыя гады, вандроўка са сцэнічнымі выступленьнямі адбудзецца у днёх 20-26-га жніўня па трасе: Нараўка–Масева–Альхоўка–Баб'я Гара–Семяноўка–Тарнопаль–Ляхава Старое. Гэта паўночная ўскраіна Белавежскай Пушчы, каля вадаёму «Семяноўка» на рацэ Нарве, у гміне Нароўка.

Добра было-б, каб з асяродзьдзя беларусаў Заходніх краінаў маглі прыехаць некалькі асобаў на гэтую вандроўку.

Кошт пабыту аднэй асобы на Беласточчыне на працягу тыдню будзе ў межах 100-150 ам. даляраў, ня ўлічваючы кошту падарожжа. Падчас вандроўкі кошт будзе меньшы (каля 15 даляраў на дзень), але і умовы будуць ня гэткія выгодныя, — за тое цікавей у кампаніі беларускай моладзі.

Калі хто зможа і зажадае прыехаць у Беласточчыну з турыстычнай мэтай у іншым часе, кошты пабыту будуць залежыць ад пажаданай праграмы і запатрабаваных умоваў. У сярэднімжа адна асоба можа пражыць суткі і нашта цікавае пабачыць за 20-25 даляраў.

Зацікаўленых вандроўкамі просім зьвяртацца па адрасу:

Jan Mordan
Poland
15-064 Ryboły 158

**Ян Мордань**

# БЕЛАРУСКІЯ ДЗЕЦІ Ў КАНАДЗЕ



*Канадыйская «мама» вітае маленькую Юлю на аэрадроме. Фота A. Trottier*

2-га чэрвеня у Канаду прыляцела першая група дзяцей зь Беларусі. Гэтая група налічвае 59 паўторных дзяцей, якія прыехалі на 10 тыдняў, на запросіны тых самых сем'яў, дзе яны былі у мінулым годзе, каб даць ім магчымасьць папраўвіцца яшчэ болей.

Канадыйскі Фонд Дапамогі Ахвярам Чарнобылю ў Беларусі у гэтым годзе прывозіць 410 дзяцей зь Беларусі на летні пабыт у канадзкіх сем'ях, на адпачынак і лячэньне.

# ЛЮДСКІЯ СТРАТЫ БЕЛАРУСІ РАНЕЙ І ЦЯПЕР

Месяц таму назад Рэспубліка Беларусь адзначала 50-і годзьдзе заканчэньня 2-е Сусьветнай вайны, ці ў тэрміналёгіі савецка-расейскай «Айчыннай вайны». Адбываліся парады, вечары-успаміны, гралі аркестры нагняталася атмасфэра, каб ня забывалася, пачаўшая ўжо выветрывацца саветчына. Шмат у якіх мясцох, на плякатах давалася статыстыка — кажны чацьверты беларус загінуў у часе вайны. Жудасна! Кажны чацьверты.

І якраз у тым самым часе ў Менску выйшла выдатнае дасьледваньне — кніга маладога беларускага гісторыка Генадзя Сагановіча — *«Невядомая вайна: 1654–1667»*, у якой дасьледуецца мала вядомая старонка ў гісторыі Беларусі: вайна беларускага народу з наступаўшай ў 17-м стагодзьдзі Маскоўшчынай. Зацятая была тая вайна. Доўга і жорстка змагаўся беларускі народ. А асабліва варта прыпомніць з тае вайны статыстыку, якую аўтар падае ў працы. Вось вытрымка: «І самыя страшныя страты — гэта страты людзкія. На Беларусі ў межах прыкладна яе сучаснай тэрыторыі колькасьць насельніцтва зьменшылася больш чым на палову: калі перад вайной яно дасягала 2 мільёнаў 900 тысячаў чалавек, дык на 1667 год засталося блізу 1 мільёна 350 тысячаў. Гэта прыкладна 47 працэнтаў. Гарадзкога жыхарства ацалела яшчэ менш: толькі 45 працэнтаў».

Вось-жа, у змаганьні з Расейшчынай і дзякуючы нашаму палажэньню ў складзе Расейскай Імпэрыі, пачынаючы ад семнаццатага стагодзьдзя беларуская нацыя страціла мільёны, мільёны жыхароў! Страшна і падумаць, што сёньняшняя ўлада на Беларусі шпаркімі тэмпамі ўцягвае Беларусь назад у расейскую бойню.

# ПАДАРОЖЖА НА ГОМЕЛЬШЧЫНУ



*Вёска Барталамееўка*

Сёлетні наш пабыт у Беларусі быў з аднаго боку вельмі памысны й цікавы, а з другога — поўны трывогі, роспачы й крыўды. Трывогі за будучыню Беларусі, крыўды й роспачы за свой народ. Але пра прыкры бок я пісаць ня буду — шмат ужо перагаворана й напісана, тым болей, што аб гэтым гаварыць і пісаць недастаткова — трэба нешта рабіць, адрабляць.

Хочацца гэтта разпавесьці аб прыемным і цікавым — аб падарожжы на паўдзённы усход Беларусі, на Гомельшчыну.

Пашчасьціла нам быць гасьцьмі Гомельскага Унівэрсытэту. Гаспадары нашыя, рэктар Л.А. Шамяткоў і прафэсар Уладзімер Анічэнка ня толькі выдатна арганізавалі наш пабыт у Гомелі, спатканьне са студэнтамі й выкладчыкамі Унівэрсытэту, неведваньне працоўных лябараторыяў: скарынінскай, лінгвістычнай і краязнаўчай, але наладзілі і шэраг экскурсіяў па Гомельшчыне.



*Капліца Паскевічаў у парку*

Кантакты нашыя з Гомельскім Унівэрсытэтам пачаліся ўжо пару гадоў таму, калі Унівэрсытэт зьвярнуўся да Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва з запросам аб літаратуры пра Скарыну, што выдавалася на Захадзе для Скарынінскай лябараторыі-музэю, што пры Унівэрсытэце. Варта тут заценіць, што гэта бадай самы вялікі збор Скарыніяны на цэлым сьвеце — сабраныя там і кнігі і артыкулы і мастацкія творы і музэйныя экспанаты, якія тычацца жыцьця й дзейнасьці нашага першадрукара. Сапраўды працоўная лябараторыя годная Унівэрсытэту, які носіць імя Скарыны. Унівэрсытэт, яшчэ параўнаўча малады, разьмешчаны у некалькі будынках у пешай адлегласьці адзін ад другога у прыгожай частцы Гомелю.

Аб Гомелю, прызнацца, веды мае былі вельмі сьціплыя. Ведала, што горад стары, адзін з большых у Беларусі, горад індустрыяльны, амаль цалкам зьнішчаны ў Другую Сусьветную вайну.

На прыемнае зьдзіўленьне, Гомель, у часе нашай першай перадвечаровой экскурсіі, выявіўся прыгожым гістарычным местам над Сожжу, поўным цікавых архітэктурных помнікаў.

У парку, дзе захаваўся яшчэ палац 18-га стагодзьдзя, у адным з корпусаў якога знаходзіцца цудоўны этнаграфічны музэй, Петрапаўлаўскі Сабор пачатку 19-га стагодзьдзя, каплічка-пахавальніца князёў Паскевічаў, спакойна, зелена, утульна — пападаеш якбы у другі сьвет, у другую эпоху.

Пачынала цямнець, а нам усё не хацелася пакідаць гэты гістарычны прыемны куток Гомелю.

Назаўтра падарожжа яшчэ далей на ўсход ад Гомелю, глыбей у гэтак званую «Зону».

Перш-на-перш у Ветку, у мясьціну беларускіх старавераў. Некалькі, у 17-ым стагодзьдзі, калі стараверы уцякалі з Маскоўшчыны, каля 40 тысячаў знайшлі прытулак у гасьціннай Ліцьве і аселі ў Ветцы, дзе яны й нашчадкі іхныя вякамі жывуць у гармоніі з мясцовым насельніцтвам. Дзесяць гадоў таму заснаваўся тут этнаграфічны музэй, які да пэўнай ступені адлюстроўвае культуру старавераў ваколіцы. Музэй гэты, пра які мы ужо шмат чулі, і прыцягнуў нас у Ветку. Кіраўнічка музэю, сп-ня Нечаева, вельмі дасьветчаны этнограф, паказала нам выключна прыгожыя і рэдкія іконы старавераў у багатых кіётах, шытыя бісерам — рамяство, якое ведамае пераважна толькі у ветказкім рэгіёне. Расказала яна нам таксама пра сэмантыку ўзораў ручнікоў мясцовых ткальляў, дзе кожны ўзор нешта значыць, нешта апавядае. Шмат часу яшчэ можна было-б там правесьці, але сьпяшаліся мы далей, у Неглюбку.

Па дарозе цешыла вока прырода, палі, лугі, яшчэ мясцамі затопленыя веснавой паводкай, бярозавыя ляскі, прыдарожныя вёсачкі, зграбныя хаты з своеасаблівымі арнамэнтальнымі, найчасьцей каляровымі, надваконьнікамі-ліштвамі. Не магла я нацешыцца цікавай беларускай тапанімікай — назвамі вёсак і мястэчкаў (толькі пабеларуску) на дарожных знаках: Навасёлкі, Бесядзь, Сівінка, Старое Залужжа, Новыя Грамыкі, Сьвяцілавічы, Стаўбун. Адзін з такіх знакаў накіраваў на Барталамееўку — вёску якая была цалкам выселеная пасьля Чарнобыльскай катастрофы.

Зьехалі з дарогі ў вёсачку — кінутую, пустую, бязьлюдную. Праўда, недзе ўдалі заўважылі сабаку, а пасьля й чалавека — мусіць нейкая адважная, непахісная асоба, што рашыла не пакідаць свайго. Хаткі забітыя, апусьцелыя, а каля аднэй ... цьвіце яблынька.

У гэты прыгожы, цёплы травеньскі дзень ніяк не хацелася думаць пра трагэдыю, тым болей, што вонкава трагэдыі гэтай і не заўважаецца — мясцовыя людзі жывуць нібыта нармальным жыцьцём, неяк стараюцца ад яе адхінуцца, забыцца, не ўспамінаць — можа-ж яно й міне.

Недалёка Неглюбкі, пры дарозе невялікі магільнік, яшчэ сьвежа ўвешаны ручнікамі пасьля Радаўніцы.

А бось і Неглюбка — вёска здаўна славутая сваімі ручнікамі, дзе амаль у кожнай хаце жанчына-ткальля, мастак свайго роду, вырабляе адменныя ручнікі пераборнага аднааковага ткацтва. Тут мы знайшлі і нашую ткальлю Тацьцяну Дзеранок, якая некалі, у 70-ых гадох з дыплямятамі са Злучаных Нацыяў перадала ручнік сваёй работы для Беларусаў Амэрыкі.



*Куток зь іконамі у хаце Т. Дзеранок*

Майстроўства свае старэйшыя жанчыны перадаюць маладзейшым і зусім маладым. Пры школе заснаваная ткальная майстроўня, дзе школьніцы старэйшых клясаў ужо вытыкаюць ручнікі, за якія ня сорамна было-б і спрактыкаваным ткальлям.

Так не хацелася пакідаць гэтай цікавай гасьціннай вёскі, што ляжыць на самай усходняй мяжы сёньняшняй Рэспублікі Беларусь. «Пагуляйце, пагуляйце» — усё ўгаварвала нас Тацьцяна, але трэба было ехаць, бо ў Гомелі яшчэ заплянаванае спатканьне са студэнтамі.

Ня было-б поўным маё апавяданьне, каб не ўспомніла хоць колькімі словамі горад Крычаў. Вяртаючыся з Гомелю назад у Менск наш уважлівы й дбалы апякун і праваднік, сп. Анічэнка быў ласкавы яшчэ зрабіць даволі вялікі круг і падкінуць нас у г. Крычаў, дзе прайшло некалькі маіх дзіцячых гадоў. Ляжыць ён на той самай рацэ Сож, але значна ўжо вышэй на поўнач, недалёка Магілёву.

Крычава майго дзяцінства я амаль не пазнала. Толькі, як убачыла стары палац і роў, дзе я калісь 8-мі-9-ці гадовым дзяўчом лазіла з сябрамі, дык у памяці ўсё ўсплыло. Зноў прабегла я (адкуль энергія ўзялася) нацянькі праз роў, знайшла хату, дзе некалі жылі, спаткала там нават і цяперашняга гаспадара хаты, а тады бялявага 6-ці гадовага хлапчука Лёньку, унука нашых былых гаспадароў, які, як я толькі сказала, што я Зора, адразу пазнаў мяне й прывіталіся мы як старыя сябры — **зноў пабывала я дома.**

**Зора Кіпель**

# ЦІКАВАЯ, ВАЖНАЯ ПРАЦА

*Belarus, Lithuania, Poland, Ukraine. The Foundations of historical and cultural traditions in East Central Europe.* Rome-Lublin, Institute of East Central Europe, Foundation John Paul II, 1994. 502 p.

Кніга — працы Міжнароднай Канфэрэнцыі, што адбылася 28-га красавіка – 6-га травеня 1990 году ў Рыме, якую спансэравалі і зьяўляюцца сувыдаўцамі: The Polish Institute of Christian Culture, Rome, The W.K. Lypinsky East European Research Institute, Philadelphia, The Belarusian Institute of Arts and Sciences, New York, The Lithuanian Catholic Academy of Science, Rome.

Канфэрэнцыя ў Рыме была прысьвечаная аналізу дзяржавы і культурна-палітычнага жыцьця Вялікага Княства Літоўскага. Княства, у шмат якіх працах прадстаўленых на канфэрэнцыі, выстаўляецца як магчымая альтэрнатыва дзяржаўна-палітычнае структуры на цяперашні час. У гэтай канфэрэнцыі было прадстаўлена шмат дзесяткоў дакладаў у якіх закранался Беларусь. Беларускі кантынгент дасьледчыкаў беларусістаў і беларусаў быў наступны: сп-ня Зора Кіпель, д-р Адам Мальдзіс, д-р Юры Туронак, д-р Ян Запруднік, д-р Анатоль Грыцкевіч, д-р Вітаўт Кіпель, д-р Альжбэтиа Смулкова, д-р Часлаў Кудаба, праф. Мячыслаў Вярэніч. Працы канфэрэнцыі — важная вяха як на шляху аналізу Вялікага Княства Літоўскага ў сьвятле новых архіўных дадзеных, нова падыходу да вывучэньня. У выніку канфэрэнцыі сфармавалася камісія падручнікаў для школаў, ў якіх будзе насьвятляцуца гісторыя ВКЛ, як супольнае дзяржавы чатырох народаў.

Зь беларускага гледжаньня вельмі важны таксама факт, што якраз на той канфэрэнцыі, у 1990-ым годзе ўпяршыню выступалі разам, супольна, беларусы дасьледчыкі з дыяспары і з Бацькаўшчыны. Дарэчы, аб той Рымскай канфэрэнцыі дэтальна і сэнтымэнтальна-прыхільна напісаў успаміны др. Адам Мальдзіс у летась выдрукаванай у Менску кнізе *І ажываюць спадчыны старонкі*: «Знаёмяць нас з беларусамі з-за акіяна-дырэктарам Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью Ёрку Вітаўтам Кіпелям, яго жонкай, супрацоўніцай Нью-Ёркскай публічнай бібліятэкі Зорай Кіпель, рэдактарам газэты «Беларус» Янкам Запруднікам. Гаворым пра тое, што вось такая, «раскаваная» сустрэча была б проста немажлівай гадоў яшчэ пяць назад... На першае пасяджэньне канфэрэнцыі мы, беларусы, ішлі са зразумелай насьцярожанасьцю, выклікана ўжо самой яе назвай ... але ... «запеў» канфэрэнцыі здаўся нам канструктыўнам, і мы, беларусы з Мінска і Нью Ёрка, што ці не ўпершыню на такім форуме ўселіся разам, на самым «левым» крыле канфэрэнц-зальнага паўкруга...»

Даўгагадовага старшыню Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, дзейнага сябру Рады БНР, управы БІНІМу й рэдкалегіі «Беларуса», пачынальніка й кіраўніка шмат якіх арганізацыяў і установаў на Бацькаўшчыне й на эміграцыі спадара

**АНТОНА ШУКЕЛОЙЦА**

вітаюць з круглымі ўгодкамі

*рэдкалегія газэты «Беларус».*
*управа БАЗА, БІНІМу, Рада БНР*
*шматлікія сябры й прыяцелі*

Шаноўнага й адданага грамадзка-рэлігійнага дзеяча, будаўніка царквы Божае Маці Жыровіцкае ў Клíўлендзе, пільнага рупліўцы распаўсюджаньня газэты «Беларус», сябру Рады БНР, спадара

**АНДРЭЯ СТЭЧАНЯ**

вітаюць з 80-і ўгодкамі

*газэта й адміністрацыя газэты «Беларус».*
*управа БАЗА, царкоўныя ўлады й сябры*

## НОВЫЯ ДРУКІ ПРЫ СУПРАЦОЎНІЦТВЕ ДЫЯСПАРЫ З БАЦЬКАЎШЧЫНАЙ

***Францыск Скарына, жыцьцё і дзейнасьць.* Паказальнік літаратуры: дадаткі за 1530-1988 гг., 1989-1993.**

Гэта бадай ці ня першая сапраўды супольная праца навукоўцаў на Бацькаўшчыне і ў замежжы. Праца выдадзеная пад грыфам Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва (ЗША), Нацыянальнай Бібліятэкі Рэспублікі Беларусь і Нацыянальнага навукова-асьветнага цэнтру імя Ф. Скарыны (Менск).

Укладальнікі бібліяграфіі: Вялянціна Грышкевіч (Менск) і Лявон Юрэвіч (Нью Ёрк).

Рэдактары выданьня: д-р Вітаўт Кіпель (Нью Ёрк), д-р Адам Мальдзіс (Менск), Тацьцяна Рошчына (Менск)

У прадмове да кнігі, падпісанай Вітаўтам Кіпелям і Адам Мальдзісам, сказана: гэтая бібліяграфія скарыніяны кладзе пачатак *пэрыядычным* скарынаўскім бібліяграфіям. Вышэй названыя ўстановы прыкладуць усе намаганьні, каб кнігі такія выходзілі рэгулярна, адзін раз у пяць гадоў. Заканчваецца прадмова так: «Будзем спадзявацца, што гэтае выданьне стане пачаткам, падмуркам сталага супрацоўніцтва бацькаўшчыны і дыяспары». Дадзім, што, сапраўды, добра было-б, каб супрацоўніцтва паміж Беларусьсю і дыяспарай прадоўжвалася, аб якім, нажаль, пры пануючай сёньня палітычнай атмасфэры на бацькаўшчыне цяжка и думаць.

***Турэцка-Беларускі размоўнік 1836 году з збораў Нацыянальнага Музэю Літоўскай Рэспублікі ў Вільні.* Нью Ёрк/Вільня, 1995 г. 62 б.**

Выйшаў гэты размоўнік пад рэдакцыяй сп. Сяргея Шупы, а камэнтары, прадмова і падрыхтоўка тэксту былі выкананыя сп-няй Галінай Александровіч-Мішкінене і С. Шупам.

Тэматыка гэтага размоўніка даволі шырокая й разнастайная, панад дванццаць тэмаў у блізу 1000 лексычных адзінках.

У зьмястоўным інфармацыйным уступе укладальнікі-дасьледнікі слоўніка пішуць «сярод усіх ведамых дагэтуль помнікаў пісьменства беларускіх татараў, створаных у беларускай мове на графічнай аснове арабскага альфабэту, дадзены рупіс вылучаецца сваёй унікальнасьцю. Сярод дзесяткаў кітабаў, тэфсіраў, хамаілаў і зборнікаў іншага роду, ён адзіны прадстаўляе жанр слоўніка-размоўніка, практычнадыдактычнага дапаможніка, значэньне якога выходзіць за межы замкнёнай этнарэлігійнай супольнасьці беларускіх татараў.»

Манускрыпт выдрукаванага размоўніка пераховўваецца ў Аддзеле рукапісаў Нацыянальнага Музэю Літвы.

У Менску ў выдавецтве Бацькаўшчына сёлета выйшаў з друку ***Новы Запавет/Псалтыр***, як зазначана на адвароце тытульнай бачыны: «З дабраславеньня Найпачэсьнейшага Мікалая Архіепіскапа Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы упершыню ў Беларусі на роднай мове друкуецца Сьвятое пісаньне ў перакладзе з царкоўнаславянскай прызнанага майстра, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Васіля Сёмухі. Выдаецца пры фінансавай падтрымцы доктара гісторыі, спадара Янкі Запрудніка (ЗША)».

Перакладнік, спадар Васіль Сёмуха гэтаксама адзначае: «Шчыра дзякую усім асобам і установам, якія паспрыялі выданьню гэтай кнігі: Мітрапаліту Мікалаю (Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царквы, ЗША, Канада), Патрыяшаму Экзарху ўсяе Беларусі Мітрапаліту Мінскаму і Слуцкаму Філарэту, спадару Юрку Рапэцкаму (Глабальнае місіянерскае радыёслужэньне, Канада), спадару Янку Запрудніку (ЗША), выдавецкаму цэнтру Згуртаваньня Беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» (Беларусь), прасьвітару Уладзіміру Канатушу (Царква Эвангельскіх Хрысьціян Баптыстаў, Беларусь), спадарам Валянціне і Міхаілу Пашкевічам (Канада), спадару Робэрту Пухоўскаму (ЗША), спадару Сахараву (Канада).

Кніга, 488 старонак, выдатна аформленая, прыгожым чытэльным шрыфтам была выкананая на настольна-выдавецкай сыстэме спадара Юркі Рапэцкага ў Канадзе, а адказны за выпуск выданьня спадар Яўген Лецка, старшыня Выдавецкага Цэнтру «Бацькаўшчына».




*Рэклама на трактар «Беларусь» на аднэй з аўтастрадаў штату Паўночная Караліна. Фота Я і К. Вініцкіх*

Адданых і заслужаных грамадзкіх працаўнікоў, пачынальнікаў і «слупоў» грамадзка-палітычнае-культурніцкае беларускае дзейнасьці ў Злучаных Штатах, сяброў і актыўных кіраўнікоў дзесяткоў беларуска-амэрыканскіх арганізацыяў

**НАДЗЕЮ й ЯНКУ ЗАПРУДНІКА**

вітаюць з сужэнствам ды шлюць найлепшыя пажаданьні на новым адрэзку жыцьцёвага шляху

*Беларусы Амэрыкі*



*Надзя і Янка Запруднік крочаць у новае жыцьцё. Фота А. Сільвановіча*

## НЕЗАБЫЎНЫ МАМЭНТ — АРЫШТ ЯНКІ ПАЗЬНЯКА

З памяці нясьціральныя падзеі: восень 1939 году, Вільня, уваход і акупацыя гораду савецкімі войскамі. Я, тады малады студэнт аграноміі, жыў у адным памешканьні з тагачасным рэдактарам газэты «Беларуская Крыніца» спадаром Янкам Пазьняком. У Вільні йшла хваля арыштаў. Штадня прыходзілі сумныя навіны — арыштавалі таго, другога беларускага дзеяча. Усе былі насьцярожаныя, адчуваньне было, што жылі ў пастцы. Недзе ў пачатку кастрычніка па гораду пайшлі чуткі, што Саветы маюць пакінуць Вільню, а горад перададуць літоўцам. Дзень перад незыбыўнай падзеяй спадару Янку Пазьняку знаёмыя літоўкія актывісты паведамілі, што той ноччу савецкія войскі выйдуць зь Вільні. Сталася-ж якраз інача. У тую самую ноч на кватэру, дзе мы жылі зьявіліся энкавэдысты й пачалі грукаць у дзьверы. Янка Пазьняк вырашыў дзьвярэй на адчыняць. Гэта аніяк не спыніла прышэльцаў. Яны пачалі грукатаць у вокны ды пасьля колькіх спробаў ім удалося штыхом адчыніць вакно якраз у маім пакоі. Улезшы ў пакой, мяне энкавэдысты паставілі пад сьценку, пад стрэльбу жаўнера. Праз вакно ў пакой улезла некалькі энкавэдыстаў ды з майго пакою яны пачалі ламацца ў пакоі, дзе жыла сям'я Пазьнякоў. Дзеці ўжо спалі. Дзяцей энкавэдысты пакінулі ў ложку, а дарослых паставілі таксама пад сьценку. У кватэры пачаўся вобыск. Трэсьлі ўсе. Вобыск трываў пару гадзінаў. Скончыўшы ператрус, энкавэдысты пачалі выходзіць з памешканьня, а Янку Пазьняку загадалі ісьці зь імі. Гэта і быў мой апошні пабыт зь Янкам Пазьняком. Па Вільні паўзьлі чуткі, што Я. Пазьняка досыць хутка растралялі, але былі гэта толькі чуткі без ніякага абгрунтаваньня. Пару дзён пазьней Саветы пакінулі Вільню. Жыцьцё-ж аднак было нялёгкае. Было цяжка атрымаць працу. Літоўцы вымагалі, каб усе размаўлялі палітоўску. На нашыя пытаньні «А што-ж сталася з нашым супрацоўніцтвам?» — літоўцы адказвалі — мы сваё зрабілі, а Вы як сабе хочаце. Няма слоў — было і крыўдна й цяжка. Незабыўны эпізод, а іх ёсьць колькі. Ды аб іншых — пазьней.

**С. Нарушэвіч (Аўстралія)**

# СЬВ. ПАМЯЦІ МАРЫЯ СТАГАНОВІЧ

Пасьля кароткай хваробы, 7-га чэрвеня 1995 года адыйшла ад нас на вечны супакой нашая дарагая мама, бабка, цёшча, сьвякроў.



Марыя Стагановіч, з роду Каркузэвіч-Борыс, нарадзілася ў 1898 годзе у сям'і Ганны і Сьцяпана, у Косым Двары, на Наваградчыне.

Дзяцінства яе ды школьніцтва пачалося ў Муравацы, блізу Шчорсаў. Марыя хадзіла ў школу ў Лозкі разам з малодшай сястрой Соняй, і яны абедзьве сьпявалі ў царкоўным хоры.

Перад пачаткам 1-ай Сусьветнай вайны бацька іхны атрымаў пасаду у Нясутычах, куды сям'я й пераехала. Тут Марыя знаёміцца з Аляксандрам Стагановічам, будучым мужам. У Нясутычах яна захапілася й беларускай вёскай, селянамі, традыцыямі, народнымі песьнамі і вышываньнем, і захаплялася гэтым цэлае сваё жыцьцё.

Пасьля заканчэньня народнай школы яе пасылаюць у Менск прадаўжаць навуку. Хвароба яе мамы перарывае, аднак, навуку і Марыя вяртаецца ў Нясутычы даглядаць кволую маму й малодшага брацiка Юзіка.

У часе вайны, з надыходжаньнем фронту, сям'я выяжджае ў Смаленшчыну. Там, у Зубаве, 25-га лістапада 1915 годы памірае яе мама, а 6 месяцаў пазьней гіне на фронце пад Баранавічамі улюбёны ейны брат Іван (Янка). Сьмерць мамы і брата пакідаюць сьляды болю на цэлае яе жыцьцё. Там-жа, на Смаленшчыне сям'я Борыс перажывае жахі рэвалюцыі. У Нясутычы сям'я вяртаецца у часе перамір'я.

У 1919 годзе сястра Соня выходзіць замуж за Валодзю Стагановіча, але ўжо ў 1920-ым памірае пасьля родаў. Памірае таксама і яе нованароджаны сынок Іванка.

Вяртаецца з Францыі Аляксандар Стагановіч, на каторага Марыя чакала 4 гады. У 1922 годзе, 30-га студзеня яны бяруць шлюб у Ваўкавічах. Заводзяцца сям'ёй: сыны Аляксандар і Леў і дачка Тамара.

Яе мужа, Аляксандра Стагановіча выбіраюць паслом у Польскі парлямэнт, як беларускага прадстаўніка. Здавалася-б, што жыцьцё будзе яснае ды лепшае. Аднак хутка польскі ўрад засуджвае яго на 6 гадоў турмы. Марыя застаецца на гаспадарцы сама з малымі дзецьмі. Пасьля 5-ці гадоў яе мужа зьвальняюць. Ня доўга было ім наканавана цешыцца дабрабытам, бо ў 1939-ым годзе Савецкі Саюз захапляе Заходнюю Беларусь і адбірае іхнюю гаспадарку пад калгас. Нямала змагалася Марыя з Савецкай уладай за сваю зямлю, але усё было дарэмна.

У 1940 годзе памірае яе бацька Сьцяпан Борыс — яшчэ адно няшчасьце ў ейным жыцьці.

У 1942 годзе родзіцца ім сын Юрка.

У часе нямецкай акупацыі, сям'я Стагановічаў пакідае Нясутычы, ды жыве ў Наваградку, дзе яе муж працуе загадчыкам пастачы харчоў для шпіталяў.

У 1944 годзе сям'я Стагановічаў пакідае родную Беларусь, едзе на Захад, далей ад камуністычнай загрозы.

Разлуку зь Беларусяй, з Нясутычамі, з роднымі, Марыя пераносіла вельмі цяжка. Бязьмерным шчасьцем для яе была сустрэча з сынам Аляксандрам, каторага, яна баялася, што няма ўжо ў жывых.

У 1950 годзе сям'е пераяжджае ў Амэрыку. Пачатак новага жыцьця, у новай краіне быў надзвычай цяжкі.

У 1972 годзе, 30-га студзеня, у зборы ўсёй сям'і і найбліжэйшых сяброў Марыя й Аляксандар адсьвяткавалі свой залаты юбілей.

У 1974 годзе памірае яе першародны сын Аляксандар (Шура), здароўе якога было зьнішчанае за 4 гады ў канцэнтрацыйным лягэры Дахаў. Яе здароў'е падрываецца гэтай трагэдыяй, а восем гадоў пазьней яна зноў аплаквае сьмерць унука Аляксандра (Шурыка).

У 1988 годзе памірае яе дарагі муж Аляксандар. Ёй было-б цяжка зьмірыцца з гэткімі трагэдыямі, калі-б ня была ў яе вера ў Усявышняга.

Пасьля апэрацыі на зламанае бядро яе здароў'е горшала і не магла яна пагадзіцца з тым, што сілаў не хапала, каб даглядаць свае кветкі, каторыя любіла бязьмерна. «Я малю Бога каб, калі памру, Ён дазволіў мне даглядаць кветкі» — казала заўсёды нам мама.

Дык і кветкамі праводзілі яе на апошні супачынак: васількамі, рамонкамі, касачамі, палявымі кветкамі і белымі й чырвонымі ружамі. У труну паклалі пучок зжатага жыта й васількі, каб нагадвалі ёй родныя, любімыя палі ў Нясутычах. Маленькі кусочак цагліны з Наваградскага замку — каб успаміналa й надалей чешылася славутым родным горадам. Сын Юра, зь ейных ружаў, уклаў бел-чырвона-белы сьцяг, каб сьнілася ёй любімая Беларусь, якую яна пакінула маладой жанчынай, як на гэтым здымку, і якою мы будзем яе успамінаць.

Няхай Усемагутны зьдзейсьніць яе малітвы, ды паміж кветак дасьць ёй новае хрысьціянскае жыцьцё.

**З глыбокім сумам і любоўю:**
*Леў, Тамара, Юра, Тамара малодшая, Аня, Хрыстына й Аляксандар, ды брат Аляксандар Борыс зь Нясутычаў, у Беларусі.*

## ПАДЗЯКА ЗА ГАЗЭТНЫЯ ВЫРАЗКІ

З удзячнасьцяй адзначаем, што газэтныя выразкі, фатаграфіі і іншыя пресавыя матар'ялы, якія ўхбагацілі зьмест «Беларуса», нам прыслалі сп.сп. Я. Сурвілла, В. Трыгубовіч, У. Арлоў, Я. Арцюх, В. Рамук, А. Баханчык, Ю. Найдзюк, М. Швэдзюк, сп-ня Л. Яцкевіч, Е. Рыжы, Дж. Пацэвіч, П. Нядзвецкі, В. Багдановіч, М. Віценьчык, Аня Бартуль-Сокалоў Воюш, Алеся Кіпель, Юрка Кіпель.

*Ад прадстаўніка «Беларуса» М. Сенька з Лёндану:*

| | |
|---|---|
| М. Сенька | англ. фунтаў 42 |
| М. Швэдзюк | 40 |
| П. Асіповіч | 30 |
| Т. Дамінік | 25 |
| М. Дзейка | 25 |
| А. Ражанец | 25 |
| А. Лашук | 25 |
| Я. Хахолка | 20 |
| Л. Міхалюк | 20 |
| А. Здановіч | 20 |
| П. Шыркоўскі | 20 |
| В. Мартынчык | 15 |
| Г. Пікарда | 5 |

# СЬВ. ПАМЯЦІ АЎГЕН ПРОТАС



Аўген Протас нарадзіўся ў фальварку Забалоцьце на Дзісьненшчыне 28-га жніўня 1915-га году ад бацькоў Аляксандра й Веры. У 1937 годзе закончыў Дзісьненскую гімназію. Адразу мусіў адбыць вайсковую службу у польскай арміі. Пасьля службы коратка працаваў у мясцовай адміністрацыі. Перад пачаткам нямецка-польскай вайны Аўген быў змабілізаваны. У часе вайны трапіў у нямецкі палон, дзе працаваў у нямецкіх фармэраў ва Усходняй Прусіі. У нямецка-савецкую вайну вярнуўся дадому.

У часе 2-ой сусьветнай вайны Аўген, як і многа маладых беларускіх патрыётаў, марыў аб вольнай Беларусі. Бальшыню свайго часу аддаў працы з моладзьдзю й службе абароны правоў свайго народу. З канцом вайны пакінуў Беларусь, каб ня трапіць ізноў пад чырвоны рэжым. У Нямеччыне, у Ангельскай зоне быў у лягеры для перамешчаных асобаў (ДП). Працаваў у кіраўніцтве лягеру.

У Злучаныя Штаты Амэрыкі прыехаў у 1949 годзе. Пасяліўся ў горадзе Стамфордзе, у штаце Канекцікут. У 1954 годзе ажаніўся зь Яўгеньняй Храмавой. Сын Валодзя й дачка Таня — іх дзеці.

Аўген Протас быў актыўны ў беларускіх арганізацыях, як грамадзкіх гэтак і рэлігійных. Яму заўсёды ляжала на сэрцы дабро ў нашым царкоўным і сьвецкім жыцьці.

Памёр сьв. памяці Аўген Протас 2-га чэрвеня 1995-га году у сябе дома. Пахаваны 5-га чэрвеня на Woodland Cemetery у Стамфордзе. Зь яго адыходам мы страцілі яшчэ аднаго нацыянальнага працаўніка.

Вечная памяць!

**Васіль Шчэцька**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Ад нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| Замест кветак на магілу Сьв. пам. Аўгена Протаса: | |
| Сям'я В. Кажана | ам. дал. 50 |
| Магарэта Кажан-Браздоўская | 50 |
| Юля Кажан | 50 |
| К. Акула | 50 |
| У памяць Янкі Міхалюка: | |
| Р. і М. Касьцюк | 30 |
| Падпіска і ахвяраваньні: | |
| Др. Л. Трусэвіч | 100 |
| Л. Літаровіч | 70 |
| Я. Сурвілла | 60 |
| М. Сіцько | 50 |
| А. Монід | 50 |
| Я. Канарчук | 50 |
| Г. Кучура | 50 |
| Л. Бакуновіч | 35 |
| В. Сітнік | 30 |
| Ю. Станкевіч | 30 |
| А. Васанскі | 30 |
| М. Аляксандар | 30 |
| М. Сенька | 30 |
| Н. Кіт | 30 |
| а. Г. Радэнковіч | 30 |
| Б. Данілюк | 30 |
| А. Магаліф | 30 |
| А. Кузьміч | 30 |
| А. Максімюк | 30 |
| Л. Мурог | 30 |
| Я. Шыбут | 30 |
| М. Бахар | 30 |
| М. Кулеш | 30 |
| В. Мельяновіч | 30 |
| Л. Норык | 20 |

*Прыслалі беспасярэдня ў Рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| Б. і Ф. Бартуль | 300 |
| В. і М. Махнач | 100 |
| М. Латушкін | 100 |
| М. Мацкевіч | 72 |
| В. і В. Рамук | 50 |
| В. і І. Ільшчук | 50 |
| А. Чарнэцкая | 50 |
| Я. Юхнавец | 20 |
| У памяць Я. Міхалюка: | |
| В. і Ф. Бартуль | 50 |
| Замест кветак на магілу Марыі Стагановіч: | |
| Н. і Я Запруднік | 50 |
| Замест кветак на магілу Бенігны Вініцкай | |
| Н. і Я. Запруднік | 50 |
| М. Кастышын | ауст. дал. 30 |
| і за продаж газэты | ам. дал. 53.70 |

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД БІНіМ

| | |
|---|---|
| А. Занковіч (Францыя) | ам. дал. 200 |
| А. і Г. Кучура | 100 |
| К. Акула | 50 |
| А. Монід | 50 |
| У. Машанскі | 30 |
| Я. Раковіч | 20 |
| Б. Даніловіч | 20 |
| Др. М. Смаршчок | 50 |
| І. і Я. Сурвілла | 75 |
| А. Кажан заміж кветак на магілу А. Протаса | 50 |
| В. і З. Кіпель | |
| у памяць Я. Міхалюка | 50 |
| у памяць М. Стагановіч | 50 |

**Увага!**

Усіх падпішчыкаў і ахвярадаўцаў на газэту «Беларус», што жывуць паза межамі ЗША, ветліва просім перасылаць належнасьць, выпісваючы грашовы пераказ (Money Order) у амэрыканскіх далярах.

**Адміністрацыя газэты «Беларус»**